# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET


## ЦІ ВЫТРЫМАЕ



КАШАЛЁК БЕЛАРУСАЎ 2016-Ы ГОД?

СТАР. 3–4–5

## ПРЫВАТНІКАЎ ЗАГОНЯЦЬ



У АФІЦЫЙНЫЯ ПРАФСАЮЗЫ?

СТАР. 6-7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА 28.02.13-7.03.13 г.

# ЯК РЭФАРМАВАЦЬ «ПОЗОРИЩЕ»

Аляксандр Лукашэнка распісаўся ў немагчымасці змяніць становішча ў “стратэгічна важнай” галіне.




*Можа, прыйшоў час лепш укладваць грошы ў развіццё настольнага хакею?*

## ГАЛОВЫ НЕ ПАЛЯЦЕЛІ

28 лютага кіраўнік Беларусі вёў нараду са сваім спартовым штабам: з міністрам спорту і турызму Аляксандрам Шамко, памочнікам прэзідэнта па пытаннях фізічнай культуры Максімам Рыжанковым і першым віцэ-прэзідэнтам Ігарам Рачкоўскім.

> “Гэтым разам, як рэха, прагучала: “Не справились — всех метлой!”. Але ж ніхто не звольнены, бо ўжо нават Лукашэнка не спадзяецца, што гэткім чынам атрымаецца выправіць становішча”.

Напярэдадні Аляксандр Лукашэнка ўжо ахарактарызаваў стан спраў у хакеі як «позорище». Шмат хто чакаў, што ён схопіцца за шаблю і паляцяць галовы. Аднак пакуль што ўсе засталіся на сваіх месцах.

— В нашем спорте произошли очень важные события, которые характеризуют его состояние. Я имею в виду то, что закончился чемпионат мира по велоспорту на треке, наша хоккейная сборная успешно провалила отборочный турнир на предстоящую Олимпиаду (она пройдёт практически у нас дома, в Сочи, но мимо нас). Минское «Динамо» закончило своё участие в КХЛ хуже, чем в прошлом году, не выполнены обещания. По-моему, «Юность» в ВХЛ провалилась полностью, — падсумаваў “галоўны спартовец Беларусі”.

## А ВЫНІКІ ЎСЁ ГОРШ І ГОРШ

Сапраўды, вынікі ў хакеі ашаламляльныя.

1) Зборная Беларусі праляцела міма Гульняў у Сочы-2014, саступіўшы месца там камандзе Славеніі! (Пры тым, што ў гэтай балканскай краіне існуе толькі адзін хакейны клуб.)

2) Мінскае “Дынама” не патрапіла ў плэй-оф Кантынентальнай хакейнай лігі, заняўшы 19-е месца (з 26 удзельнікаў).

3) Мінскае “Юнацтва” на чале з даўнім партнёрам Аляксандра Лукашэнкі па лядовай пляцоўцы Міхаілам Захаравым заняла 23-е месца (з 27) у Вышэйшай хакейнай лізе.

А гутарка ж ідзе пра той від спорту, якому ў Беларусі ўдзяляецца непрапарцыянальна вялікая ўвага, бо сам Лукашэнка вялікі аматар пагойсаць з клюшкай. Праз гэта шмат гадоў у хакей укладваюцца агромністыя грошы, а выніки ўсё горш і горш.

Чаму ж Аляксандр Лукашэнка ўстрымаўся ад адставак, тым больш што яшчэ на Алімпійскім сходзе ў кастрычніку 2012-га ён абяцаў старшыні таварыства “Дынама” Юрыю Бародзічу: “Провалите динамовскую команду и пойдёте улицу мести!”?

Гэтым разам, як рэха, прагучала: “Не справились — всех метлой!”. Але ж ніхто не звольнены, бо ўжо нават Лукашэнка не спадзяецца, што гэткім чынам атрымаецца выправіць становішча.

*Заканчэнне на стар. 3*

**НАВІНА**

## БЕНЕДЫКТ XVI: УЗЫХОДЖУ НА АПОШНІ ПЕРАВАЛ СВАЙГО ЖЫЦЦЯ

«Entro nell’ultimo passo della mia vita, vita del semplice pellegrino… Vi benedico alla fine… /

Узыходжу на апошні перавал свайго жыцця, жыцця звычайнага пілігрыма… Благаслаўляю вас наапошку…« — словы папы Бенедыкта XVI, якога сёння верталётам даставілі з Ватыкана ў загарадную рэзідэнцыю папаў Кастэльгандольфа. Там ён апошні раз паблаславіў паству.

Перад ягоным адлётам з Рыма тлум на плошчы Святога Пятра скандаваў: «Дзякуем!».

Паўнамоцтвы папы скончаюцца сёння, а 22-й гадзіне. Новага папу абяруць цягам двух тыдняў.

Бенедыкт XVI сышоў на спакой у 85 гадоў, спасылаючыся на слабыя сілы і здароўе. Гэта першы выпадак за 600 гадоў, што папа не дабыў на Пасадзе да скону. Бенедыкт XVI думаў пра такі выбар ад пачатку, бо адразу пасля абрання папрасіў вернікаў маліцца, каб «пастыр не збаяўся ваўкоў».

# ЯКІЯ СМІ ПАПУЛЯРНЫЯ Ў РЭГІЁНАХ?

Апошнім часам уладальнікі высокіх дзяржаўных пасад усё часцей сцвярджаюць, што дзяржаўныя газеты дый сайты, асабліва ў рэгіёнах, нашмат больш цікавейшыя і чытабельныя, чым недзяржаўныя. Ці так гэта, спрабавала разабрацца «Тут і цяпер».



*Чытач, глядач, слухач сам разбярэцца, што яму глядзець, слухаць і чытаць.*

**ЮРЫ ТАПАРАШАЎ, ЮРЫСТ:**

### «НЕЗАЛЕЖНЫЯ РЭГІЯНАЛЬНЫЯ ГАЗЕТЫ ПА-РАНЕЙШАМУ ЗАПАТРАБАВАНЫ»

— Некаторыя мясцовыя незалежныя газеты, такія як баранавіцкая «INTEX-PRESS», карыстаюцца попытам. Вельмі добра ідзе «Газета Слонімская». Някепскія справы ў Лунінецкай газеты, хоць яна даволі ўмераная і памяркоўная. Наколькі я ведаю ад калег, магчыма, якія-небудзь афіцыйныя «раёнкі» і выцягваюць на СМІ, але асноўная іх частка як была, так і засталася на ўзроўні савецкіх раёнак. Тыя раёнкі, што я бачыў, жахлівыя. У Крычаве, напрыклад, найжахлівейшая газета. Раней яна называлася «Ленінскі кліч», потым яе перайменавалі, але ад гэтага нічога не змянілася. Людзі купляюць незалежныя газеты, нягледзячы на павышэнне цаны. А для незалежных газет пастаянна растуць выдаткі на друк, транспарт і гэтак далей, чаго няма для афіцыйных газет. Публіка пэўнай катэгорыі сышла ў інтэрнэт. А што тычыцца асноўнай масы насельніцтва, то які інтэрнэт?! Пагледзіце на звесткі аб тым, чым людзі цікавяцца ў інтэрнэце, і адказ будзе зразумелы: што купіць і дзе прадаць, машыны, кватэры і забаўлялка. У інтэрнэта перабольшаная роля і каштоўнасць. У свой час казалі, што тэлебачанне знішчыць усё — ад тэатра да СМІ. Для асноўнай масы людзей інтэрнэт застаўся «тэра інкогніта». Прасунутая публіка даўно ў інтэрнэце, але не так шмат. Апошнім часам я назіраю ў вёсках рост колькасці спадарожнікавых антэн. На адным доме можа вісець па тры «талеркі». Расце папулярнасць тэлевізійнага рэсурсу.

**АЛЯКСЕЙ ЯНУКЕВІЧ, ЛІДАР ПАРТЫІ БНФ:**

### «БЕЛСАТ» БОЛЬШ ГЛЯДЗЯЦЬ У РЭГІЁНАХ»

— На маю думку, мясцовыя СМІ найбольш папулярныя, то бок нават раённыя газеты. Прычым незалежныя больш папулярныя за афіцыйныя. Магу казаць пра баранавіцкі «INTEX-PRESS», «Газету Слонімскую», маладзечанскую «Рэгіянальную газету», «Вольнае Глыбокае», горацкі «Узгорак». Яны прадаюцца ўсюды, у тым ліку ў крамах. І іх народ рэальна набывае. Яны выходзяць прыкладнымі накладамі каля 10 000. Некаторыя нават большымі. Іх, на жаль, засталося няшмат, але ім сапраўды давяраюць. З майго досведу, у рэгіёнах глядзяць «Белсат», бо кабельнае тэлебачанне не вельмі распаўсюджана. Па маіх назіраннях, гэты тэлеканал глядзяць больш у рэгіёнах, чым у сталіцы. Ну і інтэрнэт заваёўвае аўдыторыю: чытаюць як лакальныя сайты (дзе яны ёсць), так і агульнанацыянальныя.

**ЗМІЦЕР ЛУПАЧ, ЖУРНАЛІСТ (ГЛЫБОКАЕ):**

### «НАБОЛЬШ ПАПУЛЯРНЫЯ «ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ» І «КАТАЛІЦКІ ВЕСНІК»

— З друкаваных СМІ найбольш купляюць «Вольнае Глыбокае». Там больш аб’яў і інфармацыі. З інтэрнэт-рэсурсаў найбольш папулярны «Tut.by», бо ў нас на прадпрыемствах існуе кантроль — «Партызан» ці «Хартыю» адкрываць нельга. Можа, яны і заблакіраваны, і народ баіцца на працы туды лазіць. А «Tut.by» больш нейтральны партал. Вельмі любяць глядзець «Белсат». Мы нядаўна сюжэт здымалі ў Шаркоўшчыне, дык шмат хто паглядзеў, таму што ў вялікіх гарадах больш папулярнае кабельнае тэлебачанне. Але па вёсках талерак процьма, таму «Белсат» глядзяць. Вельмі здзіўляе «Каталіцкі веснік». Яго тыраж расце: ужо друкуецца 3000 асобнікаў. У мінулым месяцы было 1420 падпісчыкаў. І людзі ахвяраванні даюць: хто па 100, а хто і па 200 тысяч. У чым тут сакрэт? Людзі дасылаюць шмат матэрыялаў пра жыццё парафій. Ёсць і аналітыка.

**ВОЛЬГА КРУК, ХАТНЯЯ ГАСПАДЫНЯ (МАЛАДЗЕЧНА):**

### «НАВІНЫ «СВАЁЙ ПАЛЯНЫ» ЗАЎСЁДЫ ЦІКАВЕЙШЫЯ ЗА ГЛАБАЛЬНЫЯ»

— У кожнай групы свае СМІ. У тых, хто не можа нармальна прачнуцца, каб не прачытаць які-небудзь бруд пра крывавы рэжым Лукашэнкі, безумоўна, дзень пачынаецца з «Хартыі». І такіх людзей, асабліва сярод моладзі, хапае. Але найбольшую частку складаюць абсалютна непалітызаваныя абывацелі. Яны па традыцыі чытаюць «Рэгіянальную газету», бо навіны «сваёй паляны» заўсёды цікавейшыя за тое, што адбываецца ў сталіцы. «Белсат» складае сур’ёзную канкурэнцыю БТ. Талерак стала шмат, але людзі, як правіла, глядзяць і тое тэлебачанне, і іншае. Вось каго зусім не ведаю, дык гэта тых, хто чытае афіцыйныя старонкі ў інтэрнэце.

**АФІЦЫЙНА**

### ПРАЛЯСКОЎСКІ: МЯСЦОВАЯ ПРЭСА ПА ПАПУЛЯРНАСЦІ МОЖА САПЕРНІЧАЦЬ З БРЭНДАВЫМІ РЭСПУБЛІКАНСКІМІ ГАЗЕТАМІ.

**Пра гэта сёння журналістам заявіў міністр інфармацыі.**

**Разавыя наклады мясцовай і рэспубліканскай прэсы прыкладна аднолькавыя — каля 900 тыс. асобнікаў.**

**«Пры гэтым мясцовая прэса вельмі сур’ёзная сіла і вельмі запатрабавана грамадствам. Па папулярнасці яна можа сапернічаць з такімі брэндамі, як «Советская Белоруссия», «Комсомольская правда» за кошт сваёй блізкасці да людзей, іх праблем», — адзначыўАлег Праляскоўскі.**

**У Беларусі значная частка мясцовых газет самаакупныя, іх сайты займаюць сур’ёзную нішу ў інтэрнэт-прасторы.**

# ЯК РЭФАРМАВАЦЬ «ПОЗОРИЩЕ»

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

## ЧАРГОВЫ ПРАВАЛ?

Цяпер гутарка ідзе пра “создание более целостной структуры управления спортом и массовыми занятиями физической культурой”. Ужо з фармулёўкі вынікае, што справа гэтая гіблая. Аднак трэба ж нешта гаварыць.

Паказальны лёс экс-міністра спорту Алега Качана. Ён быў звольнены за няўдалы выступ беларусаў на Алімпіядзе ў Лондане-2012. Галоўнае, чым запомніцца гэты колішні фаварыт Лукашэнкі, — гісторыя з туалетам. Сарцір коштам 10 мільёнаў рублёў, які набыў конна-спартыўны цэнтр, знайшлі на сядзібе Качана. Такія фінты — амаль адзінае, на што здольныя вылучэнцы Лукашэнкі.

Новы міністр Аляксандр Шамко прыйшоў на гэтую пасаду з міністэрства па надзвычайных здарэннях. Здавалася б, надзвычайнае становішча ў хакеі патрабуе вельмі хуткіх і прафесійных крокаў, як на пажары. Але пакуль што Шамко вызначыўся толькі прапановай пра ўзмацненне ідэалагічнай працы. Хаця відавочна, што палітрукі спорт не выратуюць.

Таму анансаванае “рэфармаванне спартовай галіны” асуджана на чарговы правал. Здаецца, Лукашэнка гэта разумее і распісваецца ва ўласнай бездапаможнасці.

# ЦІ ВЫТРЫМАЕ КАШАЛЁК БЕЛАРУСАЎ 2016-Ы ГОД?

**Усё часцей улады ці то запалохваюць, ці то папярэджваюць: хочаце жыць як у Еўропе — будзеце за ўсё плаціць, як еўрапейцы. Прынамсі, у 2016 годзе, паводле разлікаў урада, мы мусім выйсці на поўную аплату паслуг ЖКГ.**

Ці вытрымаюць кашалькі беларусаў стопрацэнтную аплату ўсяго: “камуналкі”, транспарту, медыцынскага абслугоўвання, адукацыі? **“Тут і цяпер”,** не чакаючы абяцанага тры гады, падлічыла гэта ўжо сёння.

## ТАННА І ДРЭННА, АЛЬБО ДОРАГА І БЕЗ ГАРАНТЫЙ

Колькі насамрэч каштуе абслугоўванне нашых квадратных метраў — сакрэт, які і не сніўся мадрыдскаму двару. Нават прыведзеныя на сайце Мінгарвыканкама расцэнкі http://minsk.gov.by/ru/tarif/ істотна адрозніваюцца па розных пунктах: “ільготныя” ці поўныя, звышнарматыўныя ці эканамічна абгрунтаваныя, для насельніцтва ці прыватных прадпрымальнікаў, у зімовы ці летні перыяд, для газавых ці электрычных пліт, ды яшчэ ў залежнасці ад дабраўпарадкаванасці дома, зоны пражывання і колькасці прапісаных.

Калі ж верыць афіцыйным асобам, то працу камунальнікаў мы цалкам ніколі не аплачвалі і не аплачваем. У 2009 годзе беларусы, паводле слоў намесніка міністра ЖКГ Генадзя Ляпунова, кампенсавалі ўсяго 29,8% кошту жыллёва-камунальных паслуг http://www.sb.by/post/80277/.



*Добра толькі адно – нам не трэба будзе лічыць манеты пры любым раскладзе*

У крызісным 2011-м, пасля чарговага павышэння тарыфаў, гэты працэнт вагаўся ад 16,6 (за карыстанне газам у зімовы перыяд) да 104 (за абясшкоджванне цвёрдых бытавых адходаў).

А якая сітуацыя была летась і адзначаецца сёлета? Зноў мы ўсім навокал вінныя, праўда, крыніцы блытаюцца ў сведчаннях, колькі менавіта. Міністр ЖКГ Андрэй Шарэц расказаў “Народнай газеце”, што “сёння мы плацім за камунальныя паслугі ўсяго толькі 13,7% ад усяго кошту” http://ng.by/ru/issues?art_id=66880, а яшчэ адзін “праваднік і рупар” афіцыйнай прапаганды — “СБ. Беларусь сегодня” — прыводзіць лічбы 13,1% для зімовага перыяду і 17,7% для летняга. Нават калі дапусціць, што “профільны” міністр ведае лепш, усё адно атрымліваецца, што беларусы знахабнелі — плацяць за абслугоўванне кватэр менш за чвэрць і яшчэ наракаюць на дарагавізну!

Нярвовых просім пайсці за валяр’янкай — падлічым, у колькі ж абыдзецца канкрэтным суграмадзянам 100%-ная аплата “камуналкі”. Пенсіянерка Вольга Юркевіч пражывае з мужам у аднапакаёўцы ў сталічным Уруччы. За студзень 2013-га старыя заплацілі 188 тысяч беларускіх рублёў. А мусілі б больш за 1,372 мільёна! “Ох, — хапаецца за сэрца Вольга Аркадзьеўна, — гэта ж амаль уся мая пенсія! А мужавай нам на лекі і прадукты наўрад ці хопіць. Хіба толькі калі на дапамогу дзяцей спадзявацца, але ж ім самім грошы патрэбны — унукаў падымаць трэба…”. Пры гэтым, заўважым, на стопрацэнтную якасць выплачаных паслуг разлічваць не выпадак — хутчэй за ўсё, у кватэры Юркевічаў як “палілі” батарэі ўзімку, так і будуць…

Вось яшчэ некалькі разлікаў для нагляднасці. Поўны комплекс паслуг для 4-пакаёвай кватэры (6 прапісаных чалавек) за студзень каштаваў 510 тысяч рублёў, а пры стапрацэнтнай аплаце — 3,722 мільёна. Сярэднестатыстычная двухпакаёўка, “48 квадратаў” з 1 прапісаным жыхаром, абышлася ў 225 тысяч рублёў, для 2 чалавек — у 290 тысяч, пры стапрацэнтным пераразліку было б, адпаведна, 1,642 і 2,116 мільёна. А вось за 1-пакаёўку ў Сухарава, дзе ніхто не прапісаны (хоць фактычна і пражываюць наймальнікі), знаёмы заплаціў больш за 420 тысяч. Значыць, пры пераходзе на 100%-ную аплату будзе аддаваць каля 3 мільёнаў? Колькі ж тады пацягне арэнда для “немясцовых” ці маладых сем’яў, і ўявіць страшна.

Натуральна, можна суцяшаць сябе, што да 2016 года яшчэ ёсць час і што-небудзь, напэўна, зменіцца. Толькі наўрад ці ў лепшы бок. І што тады рабіць пенсіянерам і малазаможным — выконваць заклік “сысці ў зямлянкі”?

*Заканчэнне на стар. 4-5*

# ЦІ ВЫТРЫМАЕ КАШАЛЁК БЕЛАРУСАЎ 100-ПРАЦЭНТНУЮ АПЛАТУ ЎСІХ ПАСЛУГ?

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 3*

## МЫ ПАЕДЗЕМ, МЫ ПАМЧЫМСЯ НА АЛЕНЯХ…

За грамадскі транспарт мы, скнары гэткія, таксама не даплачваем. Праўда, менш, чым за камунальныя паслугі, але ўсё адно за ўласны кошт ездзім толькі на трэць. І з кожным годам, мяркуючы па разліках адмыслоўцаў ДУ "Сталічны транспарт і сувязь", фактычна плацім усё менш і менш (а нам падавалася — наадварот). Прыкладам, у 2011 годзе, калі адзін талончык у Мінску каштаваў 950 рублёў, а сабекошт паездкі складаў 2,5 тысячы, насельніцтва "выплачвала" грамадскі транспарт на 45%. Сёлета ж, калі, паводле слоў дырэктара вышэйзгаданай установы Валерыя Шкуратава, сабекошт паездкі перавышае 5000 рублёў, пасажыры плацяць усяго 1700 — прыкладна 30% (http://naviny.by/rubrics/society/2012/10/02/ic_articles_116_179416/). Як адзначыў Шкуратаў, "калі пералічыць у доларавым эквіваленце і ў дачыненні да сярэдняга заробку, то ў нас атрымліваецца самы танны ва ўсім свеце квіток на праезд". Праўда, у найбліжэйшы час (цягам першага квартала) адбудзецца падаражэнне праезду. Але пакуль што прымем лічбу 30% як рабочую ўмову задачы высветліць, колькі насамрэч каштуе праезд у сталічным аўтобусе, тралейбусе, трамваі ці метро.

Атрымліваем: квіток на адну паездку — 5100 рублёў, праязны на адзін від транспарту — 243 тысячы (а не 72 900, як цяпер), на 2 віды — 325 тысяч (супраць цяперашніх 97 500), на 4 віды — 438 000 (пры сённяшніх 131 400). У сусветным маштабе быццам бы ўсё адно выходзіць нядорага — крыху больш чым паўдолара за паездку. Але калі ўявіць, што ў сям'і як мінімум двум дарослым неабходны праязны "на ўсе віды", адмінусуем 876 тысяч, альбо 20% сярэдняга студзеньскага заробку па краіне. На гэтыя грошы можна набыць больш як 110 літраў 95-га бензіну і, як ужо робяць некаторыя, скааперваўшыся з суседзямі-калегамі, дабірацца на працу на асабістым транспарце. У апошнім варыянце ёсць і свае мінусы, але гэта ўжо зусім іншая тэма.

> "Быццам бы і нядорага — для аднаго, але гэта без уліку кансультацый, лячэння ў "вузкіх" спецыялістаў і лячэння зубоў, якое можа пацягнуць на мільёны рублёў і тысячы долараў…".



*На камунальныя дый іншыя паслугі дакладна паглядзім іншымі вачыма*

## ЛЕПШ БЫЦЬ БАГАТЫМ І ЗДАРОВЫМ

Артыкул 45 Канстытуцыі РБ гарантуе грамадзянам сінявокай права на ахову здароўя, уключаючы бясплатнае лячэнне ў дзяржаўных установах аховы здароўя, а дзяржаву абавязвае ствараць умовы для даступнага для ўсіх грамадзян медыцынскага абслугоўвання. Ну і што? Ужо кожны школьнік ведае, што айчынная медыцына — умоўна-бясплатная. Кожны мае права: альбо гадзінамі стаяць у чарзе да тэрапеўта (ці месяцамі — да вузкіх спецыялістаў), альбо, заплаціўшы пэўную суму, трапіць на прыём (часта да таго ж самага ўрача, але ў камерцыйным медыцынскім цэнтры), альбо адшукаць, таксама не бясплатна, неабходнага (добрага, рэдкага, вопытнага — патрэбнае падкрэсліць) доктара праз знаёмых...

Усё можна, толькі не трэба часта па ўрачах цягацца. А то вунь таварышы ва ўрадзе хвалююцца, што пацыенты дактароў загрузілі зусім: паводле звестак Міністэрства аховы здароўя, на аднаго жыхара Беларусі прыпадае больш як 13 візітаў у паліклініку цягам года, у той час як у Заходняй Еўропе — усяго 5-7. Спачуваючы цяжкай долі медыкаў, віцэ-прэм'ер Беларусі Анатоль Тозік нават прапаноўваў наватарскі падыход: браць з кожнага пацыента па 5 тысяч рублёў за візіт у раённую паліклініку. А што, капеечка да капеечкі, і атрымаецца ў год з аднаго беларуса 65 тысяч рублёў, а з цэлай краіны — 617,5 мільярда. Гэта ж як медыкі пабагацеюць! Калі, зразумела, убачаць гэтыя грошы. А беларусы на сабе адчуюць, наколькі лепш быць багатым і здаровым, чым хворым і бедным. Хто звяртаецца ў паліклініку раз на год па даведку для вадзіцельскага пасведчання ці яшчэ па нейкую драбязу, той дадатковых выдаткаў і не заўважыць. А вось цяжарныя жанчыны, пацыенты з хранічнымі захворваннямі і старыя з "букетам" хвароб вельмі нават адчуюць. "Я толькі за гэтую зіму была ў паліклініцы 9 разоў і яшчэ двойчы выклікала ўрача дамоў, — дзеліцца віцяблянка Аксана Кавалеўская. — А як інакш, калі двое дзяцей — сын-школьнік і маленькая дачушка — хварэлі то па чарзе, то абодва разам. Толькі адзін папраўіцца, другая вірус з садка прыносіць, і так па крузе. На лекі больш мільёна аддала. Атрымліваецца, трэба яшчэ 55 тысяч даплаціць за сустрэчы з урачом?".

Да паўнавартаснай страхавой медыцыны беларусам, на жаль, яшчэ далёка. Альтэрнатывай зневажальным паборам на сёння могуць стаць праграмы кшталту "асабісты тэрапеўт", якія ўжо дзейнічаюць у шэрагу паліклінік Мінска. Пацыент заключае з раённай паліклінікай гадавую дамову медыцынскага абслугоўвання, за гэты перыяд 10—12 разоў наведвае тэрапеўта — у зручны час, без чаргі, згодна з папярэднім запісам па тэлефоне, — а таксама праходзіць комплекс неабходных абследаванняў і аналізаў. Каштуе такая паслуга ад 1,2 да 2 мільёнаў на чалавека. Быццам бы і нядорага — для аднаго, але гэта без уліку кансультацый, лячэння ў "вузкіх" спецыялістаў і лячэння зубоў, якое можа пацягнуць на мільёны рублёў і тысячы долараў…

## ДЗЕТКІ — КВЕТКІ. ПЛАЦІЦЕ САДОЎНІКАМ!

Тыя, у каго дзяцей няма і не плануецца, могуць смела прапусціць гэтую частку. Астатнім яна ў калькуляцыі "стапрацэнтных выдаткаў" спатрэбіцца, пачынаючы ab ovo — з дзіцячых садкоў. Бацькоўская плата за садок складае ў сярэднім 100—

120 тысяч рублёў. Гэтай сумы, паводле падлікаў чыноўнікаў з Мінадукацыі, хапае толькі на аплату 40% харчавання дзяцей у дашкольных установах. "Канечне, мы хацелі б, каб бацькі аплачвалі поўны кошт хаця б харчавання сваіх дзяцей. Гэта будзе вырашацца паэтапна, а ў найбліжэйшы час трэба выходзіць хаця б на 60—70% аплаты харчавання", — выказаўся на студзеньскім выязным пасяджэнні калегіі Мінадукацыі неўтаймоўны віцэ-прэм'ер Беларусі Анатоль Тозік. Не спадзеючыся на паўмеры, падлічым адразу 100%-ны кошт харчавання дзяцей у садках — атрымліваецца каля 300 тысяч. На адно дзіця — зусім нямнога, на дваіх — ужо больш адчувальна, а на траіх і больш прадугледжана 50%-ная льгота, так што ўсё не так страшна. Калі б не адно "але". Гаворка вышэй ішла выключна пра харчаванне. А ў цэлым утрыманне аднаго дзіцяці ў садку абыходзіцца дзяржаве ў 1,2 мільёна рублёў, таму менавіта гэтую суму варта лічыць поўнай аплатай сада.

Зрэшты, аддаваць у садок дзіця да школы альбо не — цалкам выбар бацькоў. А вось сярэдняя адукацыя ў Беларусі абавязковая і бясплатная. На паперы. А ў рэальнасці існуе, напрыклад, такая рэч, як школьныя абеды — ад 10 тысяч рублёў на чалавека, альбо ад 200 тысяч за месяц. "Маю дачку не тое каб прымушалі есці ў школе, — расказвае мінчанка Алена Вайцюшэнка. — Аднак спачатку класная доўга ўгаворвала і мяне, і яе "хадзіць есці з класам", спасылаючыся то на рэкамендацыі медыкаў, то на загадкавыя распараджэнні адміністрацыі. Вымушана была занесці пісьмовую адмову, каб ад нас адчапіліся. Але і зусім без перакусу дачка таксама не вытрымлівае, даводзіцца ўсё ж такі або браць у школьнай сталоўцы штосьці найменш неапетытнае, або купляць па дарозе "сухамятку".

Яшчэ адзін артыкул выдаткаў — факультатывы і гурткі. Часы, калі ўсе гэтыя дадатковыя заняткі былі бясплатнымі, засталіся ў савецкім мінулым, цяпер большасць факультатываў каштуе ад 10 тысяч за гадзіну. А ў перспектыве Мінадукацыі рыхтуе пералік "сацыяльна значных факультатываў", якія будуць бясплатнымі для школьнікаў; усе ж астатнія заняткі будуць праходзіць за кошт бацькоў (http://news.tut.by/society/334060.html). У якую суму гэта выльецца для сямейнага бюджэту, застаецца толькі здагадвацца.

## АБНЯЦЬ І ПЛАКАЦЬ

Цяпер, як кажуць бухгалтары, "малюем баланс". 100%-ная аплата камунальных паслуг, транспарту і медыцыны складзе для ўмоўнай беларускай сям'і з двух чалавек сама меней 4,25 мільёна рублёў, пры наяўнасці хаця б аднаго дзіцяці — 4,5 мільёна і больш. Для супастаўлення: па звестках Нацыянальнага статыстычнага камітэта, сярэдняя намінальная налічаная зарплата беларусаў у студзені 2013 года склала 4,368 мільёна рублёў. Пры гэтым, шчыра кажучы, за МКАДам, дзе таксама ёсць жыццё, для многіх названая лічба перавышае рэальны атрыманы заробак у 1,5—2 разы. Пасля стапрацэнтнай аплаты ўсіх паслуг у гэтых людзей не застанецца грошай нават на прадукты, не кажучы ўжо пра такую раскошу, як бытавая хімія, новая вопратка і абутак, паходы ў лядовыя палацы ці кінатэатры, мабільная сувязь і, прабачце, інтэрнэт…

Мо пры аплаце паслуг "па-еўрапейску" беларусы мусяць атрымліваць і еўрапейскія заробкі альбо плаціць меншыя падаткі?

— Сапраўды, у развітых краінах плацяць за жыллёва-камунальныя паслугі поўную цану, — пагаджаецца прафесар доктар эканамічных навук Барыс Жаліба. — Але і заробкі там адпаведныя: скажам, у Германіі, Італіі гэта ў сярэднім ад 2 да 3 тысяч еўра. І, выдаткаваўшы на ЖКГ 20% даходу сям'і, немцы застаюцца з прыстойнай сумай на руках. Беларусы ж зусім не гатовы да гэтага з той простай прычыны, што нашы заробкі ў некалькі разоў ніжэйшыя. А сярэднюю зарплату, большую за 500 долараў, наша эканоміка няздольная забяспечыць, і няхай нават да канца года гэта будзе 600 долараў, як абяцаў прэзідэнт, усё адно пакупніцкая здольнасць у гэтых грошай зусім не тая, што была раней. Сённяшнія 500 долараў — гэта 415–420 долараў узроўню 2010 года. Другая важная прычына: у нас усе гэтыя паслугі празмерна дарагія: дарагая энергія, нягледзячы на тое, што газ мы набываем па цэнах, значна ніжэйшых за сусветныя. І пакуль мы не створым умовы для памяншэння кошту паслуг, я не бачу магчымасці выйсці не тое што на 100%, нават на 50%-ную аплату паслуг ЖКГ. Плюс, безумоўна, непразрыстасць, манапалізм у гэтай сферы адыгрываюць сваю адмоўную ролю. А вынік адзін — збядненне народа, пастаянная яго абдзіралаўка. Мы заўсёды будзем недаплачваць і заўсёды будзем вінны дзяржаве. Няхай бы паспрабаваў той вынаходнік, хто прыдумаў нарматыў 150 кВт электраэнергіі на сям'ю, сам са сваёй сям'ёй у яго ўкласціся!

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**




*Падобных пытанняў будзе ўсё больш*

**ДАРЭЧЫ**

**— Ого, якая сума ў вас атрымалася! — зацікавіўся вядомы эканаміст і палітычны дзеяч Яраслаў Раманчук. — А вы лічылі ў дзеючых тарыфах і працэнтах, якія нам агучваюць чыноўнікі? Тады не дзіўна, што выйшла "страшылка", такая выгадная для дзяржавы — быццам бы эканамічныя рэформы эквівалентныя беднасці і галечы. Насамрэч неабходна зусім іншая сістэма разліку, але рэальныя лічбы сёння хаваюцца за сямю замкамі. Прыкладам, кошт уласна паліва ў канчатковым кошце гігакалорыі цяпла складае ўсяго 15%, з чаго таго складаюцца астатнія 85? І так па ўсіх пунктах. Гэта частка палітыкі — запалохванне насельніцтва, утойванне рэальных лічбаў і махінацый на рынку жыллёва-камунальных паслуг, дзе, па сутнасці, дзейнічае адзін манапаліст. І ён не зацікаўлены, натуральна, упускаць канкурэнтаў, пабочныя арганізацыі, якія маглі б прапанаваць аналагічныя паслугі танней. Так што мы аплачваем далёка не столькі, колькі нам гавораць — гэта па-першае. А па-другое, калі б у Беларусі дзейнічаў нармальны рынак, падаткі ў нас былі б меншымі, а цэны шмат на якія тавары — ніжэйшымі, чым цяпер. На прадукты з сямейнага бюджэту выдаткоўвалася б не 45%, а, скажам, 20. Значыць, больш грошай у насельніцтва заставалася б на аплату паслуг ЖКГ, медыцыны, адукацыі.**

# ЗАГНАЦЬ ПРЫВАТНІКАЎ У

## Хто сёння можа забяспечыць надзейную абарону правоў працоўных, у тым ліку тых, хто працуе на прыватных прадпрыемствах?

У гэтых пытаннях мы разбіраліся разам з прафсаюзнымі лідарамі.

Куды будзе ўмешвацца Леанід Козік?

На гэтым тыдні **Аляксандр Лукашэнка** пагаварыў са старшынёй ФПБ **Леанідам Козікам** аб правах тых, хто працуе на прыватных прадпрыемствах.

«Мы дамаўляліся, што вы возьмеце пад апеку працоўныя калектывы прыватнікаў і, калі там парушаюцца правы чалавека, работніка, вы абавязкова будзеце ўмешвацца, — прыводзіць словы кіраўніка дзяржавы прэзідэнцкая прэс-служба. — Некаторыя кіраўнікі прыватных кампаній перашкаджаюць стварэнню прафсаюзных арганізацый, што супярэчыць дзеючаму заканадаўству. Таму ФПБ павінна больш актыўна працаваць разам з урадам над вырашэннем гэтых пытанняў».

Пакуль, дарэчы, не вельмі ясна, якім менавіта чынам будзе вырашана пытанне стварэння прафсаюзных арганізацыяй на прыватных прадпрыемствах.

Каму патрэбна зарплата ў канвертах?

Старшыня Беларускага прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) **Генадзь Фядыніч** нагадвае, што года паўтара назад Лукашэнка ўжо арыентаваў Козіка на прыватнікаў.

«Тады гаворка ішла пра тое, што калі нават няма прафсаюзнай арганізацыі на прыватным прадпрыемстве, яны ўсё роўна павінны плаціць унёскі ФПБ, і тады ФПБ возьме іх пад сваю апеку, — тлумачыць Генадзь Фёдаравіч. — Натуральна, на гэта ніхто не пайшоў. Як сітуацыя складзецца зараз — пакажа час».

Прафсаюзныя лідары згаджаюцца, што праблем на прыватных прадпрыемствах на самай справе звышдастаткова. Гэта і зарплата ў канвертах, і, мякка кажучы, няважныя ўмовы працы, перапрацоўкі, якія часам ніхто не ўлічвае, іншы раз — адсутнасць элементарных сацыяльных гарантый, неаплата лісткоў непрацаздольнасці, мінімальны тэрмін адпачынку і іншае.




*Раней прафсаюзам давяралі больш*

«І ва ўсіх гэтых выпадках наймальнік вельмі не зацікаўлены ў стварэнні прафсаюзнай арганізацыі, — згаджаецца Генадзь Фядыніч. — Мы спрабуем працаваць з прыватнымі прадпрыемствамі. І гэтая работа рухаецца не так проста, як можа падацца на першы погляд. Аднак гвалтоўна стварыць прафсаюз дзе б там ні было — гэта значыць выракчы на няўдачу любую справу. Павінна быць усвядомленае сяброўства. Чаго ўтойваць: сёння не ўсе вераць, што ў прыватніка можна адваяваць свае правы. Але гэта магчыма, нават у нашых няпростых умовах. Людзі могуць абараніць свае правы толькі тады, калі здолеюць самаарганізавацца».

Генадзь Фядыніч адзначае, што супрацоўнікі прыватных прадпрыемстваў нячаста звяртаюцца з просьбай уступіць у прафсаюз і ў афіцыйныя, і ў незалежныя прафсаюзы.

«Леанід Козік кажа, што кожны год у склад ФПБ уваходзіць нямала людзей, — каментуе Фядыніч. — Але пры гэтым ён не агучвае лічбу, колькі адтуль выходзіць... У незалежныя прафсаюзы людзі звяртаюцца са скаргамі на няпоўны заробак, цяжкія ўмовы працы. І шчыра скажу, што звяртаюцца не калектыўна, а ў прыватным парадку. У нас у прафсаюзе каля 7 адсоткаў прадстаўнікоў прыватных прадпрыемстваў ад агульнай колькасці. Але, разумееце, якая штука: незалежны прафсаюз можа абараніць толькі тых, хто хоча гэтай абароны».

> «Справа ў тым, што стаўленне да прафсаюзаў у нашым грамадстве крыху спажывецкае: іх успрымаюць не як сродак барацьбы за правы чалавека, а як сродак атрымання выгод. І перш за ўсё чалавек думае: а што мне могуць даць гэтыя самыя прафсаюзы?»

### ДАПАМАЖЫ САБЕ САМ

Экс-старшыня Мінскага гаркама прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі **Анатоль Паўлаў** перакананы: абараніць правы працоўных могуць толькі самі працоўныя.

«Гэта аксіёма, якая не патрабуе доказаў, — лічыць Анатоль Васільевіч. — А для таго, каб самаарганізавацца, ствараецца адпаведная структура. Гэта значыць павінен быць прафсаюз настаўнікаў, медыкаў і гэтак далей. У нас сёння ў дзяржаўным прафсаюзе аб'яднаны і навуковыя работнікі, і настаўнікі, і выкладчыкі вышэйшай школы, і работнікі дашкольных устаноў. І атрымліваецца, што ў рамках аднаго прафсаюза іх інтарэсы могуць не супадаць. Мы вельмі часта з гэтым сутыкаліся. Напрыклад, калі патрабавалі павышэння зарплаты для настаўнікаў, на нас крыўдзіліся малодшы персанал, выхавальнікі дзіцячых садоў. А калі б у іх быў самастойны прафсаюз, то ён адстойваў бы іх правы.

У нас засталася старая прафсаюзная сістэма, створаная яшчэ Сталіным. У свой час яна была вельмі зручнай для кіравання, а з пункта гледжання абароны правоў работнікаў, натуральна, яна павінна быць зусім іншай. Незалежныя прафсаюзы ў гэтым сэнсе аб'яднаны па сучасным прынцыпе».

Паўлаў згодны з тым, што сёння многія работнікі прыватных прадпрыемстваў сапраўды безабаронныя перад дырэктарам. І што любая спроба «пакачаць» правы можа скончыцца прапановай пашукаць іншую працу.

«Але людзі самі павінны праяўляць ініцыятыву па стварэнні прафсаюза, — кажа былы прафсаюзны работнік. — А прафсаюзы, у сваю чаргу, не павінны забываць, што яны існуюць перш за ўсё на грошы падаткаплацельшчыкаў і павінны адпрацоўваць кожную капейку».

### ІЛЬГОТЫ ДЛЯ РАЗУМНЫХ

Самае галоўнае — гэта не даць справаздачу, што прафсаюз створаны ў кожнай дзяржаўнай і прыватнай структуры. І не ствараць прафарганізацыі па ўказанні зверху. Важна, каб прафсаюзы ствараліся па жаданні саміх работнікаў, тады іх праца можа быць эфектыўнай.

Такога меркавання прытрымліваецца кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь у 2001 годзе былы кіраўнік ФПБ **Уладзімір Ганчарык**.

«З нармальнай прафсаюзнай арганізацыяй можна шмат чаго дамагчыся нават у сённяшніх няпростых умовах,

# ПРАФСАЮЗЫ

— з веданнем справы кажа Уладзімір Іванавіч. — А калі прафсаюз знаходзіцца пад кантролем дзяржавы, я думаю, працуе тая форма, якую калісьці агучваў Аляксандр Рыгоравіч: што самы галоўны абаронца правоў працоўных — гэта перш за ўсё ён сам».

Ёсць меркаванне, што ў апошні час людзі перасталі верыць не толькі чыноўнікам, але і прафсаюзам, у тым ліку незалежным.

«Калі верыць сацыялагічным даным, то да незалежных прафсаюзаў давер нават крыху вырас, — пераконвае Ганчарык. — Справа ў тым, што стаўленне да прафсаюзаў у нашым грамадстве крыху спажывецкае: іх успрымаюць не як сродак барацьбы за правы чалавека, а як сродак атрымання выгод. І перш за ўсё чалавек думае: а што мне могуць даць гэтыя самыя прафсаюзы? І там, дзе прафсаюзы больш устойлівыя, на самай справе ёсць нейкая матэрыяльная дапамога, падарункі, пэўныя льготы. І разумны кіраўнік, у тым ліку прыватнік, гэтым карыстаецца — для яго гэта ж таксама пэўныя льготы».

**МАРЫНА МІТ**

**ГІСТОРЫЯ З ЖЫЦЦЯ**

**РЫГОР ФУРС:**

## «АСАБЛІВАЙ ДАПАМОГІ АД ПРАФСАЮЗАЎ НЕ АТРЫМАЎ».

**У свой час Рыгор Фурс вырашыў з’ехаць з Гомеля і працаўладкавацца «на раёне».**

— Я, калі ехаў у сельскую мясцовасць, гатоў быў працаваць хоць скотнікам, хоць кім, — коратка распавядае сваю гісторыю Рыгор. — Мяне ўзялі кіроўцам аўтобуса на птушкафабрыку. Заключылі кантракт, які пасля не прадоўжылі. Сыр-бор пачаўся з-за таго, што аўтобус, на якім я ездзіў, быў без тэхагляду, і мяне рэгулярна за гэта штрафавалі даішнікі. У рэшце рэшт, я адмовіўся выязджаць на няспраўным аўтобусе, а са мной адмовіліся працягваць кантракт. Не сакрэт, што ў сельскай мясцовасці не хапае спецыялістаў. А я не п’ю, чалавек у агульным станоўчы. Таму звярнуўся ў суд з просьбай аднавіць мяне на працы. Аднак суды лічаць, што гэта права наймальніка — працягваць ці не кантракт з працаўніком. Цяпер справа знаходзіцца ў больш высокай судовай інстанцыі. Па Канстытуцыі я маю права на працу, а ў выніку кантрактнай сістэмы, выходзіць, што не. Я са сваёй праблемай звяртаўся ў мясцовыя прафсаюзы, але, на жаль, дапамогі асаблівай не атрымаў. Застаецца спадзявацца толькі на справядлівы суд ...




*…А вось начальства заўсёды “малавата”*

Еўрарадыё пацікавілася ў навукоўцаў і банкіраў, як уратаваць валюту ад крыважэрнага грыбка, які паядае долары.

# ЗВР У БЯСПЕЦЫ – ГРЫБКА НЯМА!

Долар пад пагрозай — яго жарэ каварны грыбок, пужае беларусаў газета «Рэспубліка».

*«Грыбы паўсюль! Яны ў паветры, у зямлі. Але без іх жыццё б спынілася»,* — кажа кіраўнік лабараторыі мікалогіі Інстытута эксперыментальнай батанікі Акадэміі навук Беларусі **Вольга Гапіенка**.

Але гэта нармальная з’ява, супакойвае біёлаг. Долары зробленыя з бавоўнянага валакна, таму калі ёсць умовы, то грыбок будзе расці.

*«Нармальныя ўмовы для росту грыбоў — грыбы растуць, а ўмовы, які не стымулююць рост, — грыбок не расце. Гэта вільготнасць і тэмпература. Я долары не правярала. Гэта можа быць любы грыбок, які расце на паперы, ці той, які быў у памяшканні. Іх вельмі шмат, гэтых грыбкоў».*

Напрыклад, валюта захоўвалася недзе ў сырым месцы, як сутарэнне. Цяпер жа многія хаваюць, распавядае пра магчымыя прычыны з’яўлення грыбка **Вольга Гапіенка**.

Больш за ўсіх наяўнай валюты ў нашай краіне захоўвае ў памяшканнях Нацыянальны банк. Ці ў бяспецы валютныя рэзервы? Распавядаем пра небяспечны грыбок супрацоўнікам сховішча Нацбанку. Які жах! — адказваюць:

*«У нас прыкладна 50 працэнтаў вільготнасці. Цвілі няма! Выкарыстоўваецца вентыляцыя. Паветра праточнае, не застойваецца. Нармальныя звычайныя ўмовы, як у кватэры»,* — супакойваюць банкіры і даюць параду: прынцыпова, каб вільготнасць не перавышала 60-70 працэнтаў. Калі ў памяшканні паніжаная тэмпература, высокая вільготнасць і няма спецыяльных фільтраў, там будзе збірацца кандэнсат і з’яўляцца цвіль.

*«Каб не рос грыбок, патрэбная нармальная тэмпература, сухое паветра і праветрыванне»,* — тлумачыць **Вольга Гапіенка**.

Карацей, калі долар будзе ляжаць у кватэры ці ў кашальку, то ўсё будзе нармальна.

А каб грыбок вырас, трэба захоўваць амерыканскую валюту ў цэлафане ці слоіку — у панчохах можна, яны праветрываюцца. Ці пакласці валюту ў сутарэнне, альбо закапаць у зямлю.

Можна, зразумела, замест амерыканскіх долараў закапаць у зямлю свае ашчаджанні ў канадскіх, бо яны з пластыку. Але і гэта можа не ўратаваць, бо ўжо знайшлі грыбок, які жарэ пластык!

**Калі ж долар з’еў грыбок, то адчайвацца не варта. Яго заўсёды можна здаць у любы банк з невялікай камісіяй**

*«Ён палімеры есць, шкло, ён есць усё. Калі б не было грыбоў, мы б задыхнуліся ад арганікі. Цяпер грыбы перабраліся нават на сінтэтыку. Знайшлі грыбок, які прызвычаіўся пластык есці. Ён з’ядае ўсё, і потым гэта пераводзіць ў неарганіку, дзякуючы якой потым расце лес».*

Калі ж долар з’еў грыбок, то адчайвацца не варта. Яго заўсёды можна здаць у любы банк з невялікай камісіяй, тлумачаць у аддзяленні Нацбанка на Талстога.

*«Нацбанк — так, як і ўсе камерцыйныя банкі, — прымае такую валюту на інкаса. Валюта прымаецца, залічваецца на пэўны рахунак. Калі яны не могуць вызначыць від забруджвання ці ім падаецца, што валюта фальшывая, яе павінны прыняць на інкаса. Яна ў вас забіраецца, правяраецца на працягу месяца, за гэта ёсць пэўная камісія, цяпер каля 5 працэнтаў».*

**ВІТАЛЬ РУГАЙН**

# АСТАПЧУК У ПАДВЕШАНЫМ СТАНЕ

Разгледзець пытанне абяцалі цягам двух месяцаў. Але штурхальніца ядра ўжо паўгода ў падвешаным стане: сыходзіць са спорту ці не?

"Гэты тэрмін падаецца працяглым, але ён не такі і доўгі, – па-філасофску ўсміхаецца Яніс Нікалау, менеджар па камунікацыях Міжнароднай асацыяцыі лёгкаатлетычных асацыяцый (IAAF). – Часам разгляд займае два-тры месяцы, бывае, шэсць, восем, дзевяць месяцаў. Можа быць нават адзін год. Залежыць ад выпадку", распавядае Еўрадыё.

**Еўрарадыё: Чаму канкрэтная справа Астапчук разглядаецца так доўга?**

**Яніс Нікалау:** *"Выпадак не падсумаваны, ён дагэтуль на стадыі расследавання. Я не праінфармаваны наконт дэталяў і не магу іх каментаваць".*

Допінг-спроба штурхальніцы ядра Надзеі Астапчук, узятая падчас Алімпіяды ў Лондане, паказала станоўчы вынік. У беларускі забралі залаты алімпійскі медаль.

Афіцыйная версія, якую падала наша Нацыянальнае антыдопінгавае агенцтва, заблытала справу яшчэ больш. Аказалася, што трэнер Яфімаў перад самым стартам страціў псіхалагічную раўнавагу і падмяшаў метэналон вучаніцы ў ежу. Пры гэтым практычнай карысці ад допінгу не было, бо метэналон, каб быў эфект, прымаецца працяглым курсам.

Пазней трэнер у эпатажна-здзеклівай форме адкаментаваў журналістам, што дадаў вадкі метэналон у каву. Хоць, як высветліла Еўрарадыё, незаўважна падліць стэройд у каву немагчыма.

Карацей, чыноўнікам антыдопінгавай камісіі IAAF было што паўдакладняць у калег з Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі.

*"І ніякай інфармацыі па дыскваліфікацыі дагэтуль няма,* – канстатуе **Надзея Астапчук**. – *Справа ў тым, што звычайна перапіскай займаецца нацыянальная федэрацыя, якая прадстаўляе інтарэсы спартсменкі. Але мне самой давялося перапісвацца з IAAF".*

**Еўрарадыё: Мы таксама не маглі дабіцца ад Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі інфармацыі. Пасада прэс-сакратара пустуе, генеральнага сакратара злавіць амаль немагчыма…**

**Надзея Астапчук:** "Генеральны сакратар Федэрацыі, якая павінна была займацца перапіскай, гэтым не займалася і не паведамляла інфармацыю пра некаторыя лісты. Такая вось была работа. Можа быць, мэта была адваротная – нашкодзіць. Мне давялося самой наўпрост звярнуцца ў антыдопінгавую камісію IAAF, паскардзілася, што мне не даюць ніякай інфармацыі. Яны доўга думалі, але скончылася тым, што перапісваемся з імі наўпрост. А наша федэрацыя дагэтуль не можа паведаміць IAAF, што ў іх новы старшыня, новы галоўны трэнер зборнай, новы генеральны сакратар. Дагэтуль лісты дасылаюць на імя супрацоўніцы Патупчык, якая з кастрычніка ўжо не працуе".



Ядро для нашай спартсменкі апынулася празмерна цяжкім

**Еўрарадыё: Які сэнс займаць пасіўную пазіцыю? Гэта, на вашу думку, расхлябанасць?**

**Надзея Астапчук:** "Ёсць, напэўна, і расхлябанасць. А, можа, была і банальная помста з боку былога кіраўніцтва федэрацыі". *(Паводле адной з версій, пасля скаргі Астапчук былы кіраўнік Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі Бадуеў быў знявolены. –* **заўв. Еўрарадыё***).*

**Еўрарадыё: Дык калі можа вырашыцца пытанне па дыскваліфікацыі?**

**Надзея Астапчук:** "Зыходзячы з перапіскі, IAAF таксама імкнецца ўсё вырашыць як мага хутчэй. Разумеюць, што разгляд зацягнуўся. Спадзяюся, што цягам сакавіка ўсё будзе вядома".

**Еўрарадыё: Вы, страціўшы залаты медаль, апынуліся ў здзеклівай сітуацыі. А тут яшчэ і тэрміны дыскваліфікацыі не могуць вызначыць так доўга. Жывяце ні там, ні сям…**

**Надзея Астапчук:** "Гэта мякка кажучы. Я зараз тры-чатыры разы на тыдзень лёгка падтрымліваю форму. Таксама пішу лісты ў IAAF, хоць трошкі складана самой гэта перакладаць і правільна складаць. Мяне падтрымліваюць сябры, блізкія. Я чакаю вынікаў разгляду, каб прыняць канчатковае рашэнне, што рабіць і чым займацца".

Ці прымала Надзея Астапчук допінг па сваёй волі – дагэтуль адкрытае пытанне. За некалькі дзён да старту на Гульнях яе правярала адна з міжнародных лабараторый. Спартсменка аказалася чыстай. Хоць метэналон, па ідэі, мусілі знайсці ўжо тады.

Надзея Астапчук абяцае раскрыць усю праўду пасля таго, як рашэнне па дыскваліфікацыі будзе прынята.

**ЯЎГЕН ВАЛОШЫН**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 28.02.13
Тыраж 299 экзэмпляраў